# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 21 (27). Снежань 1992 г. Цана 2 рублі


## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:

- ✦ Што хоча БНФ?
- ✦ Вашае імя можа застацца ў гісторыі
- ✦ Ці можна зараз паставіць «Рэвізора»?
- ✦ Ёсць мажлівасць стаць гандлёвым агентам!

## ГАЗЕТА БУДЗЕ ЖЫЦЬ

У лістападзе не выйшла газета «Выбар». Занепакоеныя чытачы тэлефанавалі, заходзілі ў рэдакцыю з адным-аднюткім пытаннем: што здарылася? І даведаўшыся пра прычыну, спачувалі, раілі, прапаноўвалі. Гэта была натуральная рэакцыя нашых сяброў.

Захіхікалі, ад здавальнення паціраючы рукі, нашыя недабразычліўцы. Напэўна, з палёгкай уздыхнулі і ў раскошных кабінетах уладу трымаючыя. Няма газеты— няма праблемаў. Вось такою, магчыма, была рэакцыя нашых непрыяцеляў.

Дык што ж здарылася? Прычына зусім празаічная— адсутнасць фінансавых сродкаў. Наша газета, якая ўзнікла год назад як голас дэмакратычнае апазіцыі, не магла тады разлічваць на бюджэтныя ін'екцыі. Асноўнай крыніцаю існавання быў і застаецца збор ахвяраванняў. Гэтым, мусіць, можна вытлумачыць перыядычнасць выхаду выдання ды адсутнасць падпіскі.

Апошнія месяцы «Выбар» жыў у доўг, што бясконца працягвацца не магло. Напрыканцы кастрычніка кіраўніцтва друкарні паставіла ўльтыматум: аплаціць усе рахункі.

Выхад газеты прыпыніўся ў тыя дні, калі наменклатурная большасць Вярхоўнага Савета незаконна адрынуўшы рэферэндум, зняважыла дый прынізіла народ Беларусі, калі мужная парламенцкая апазіцыя БНФ, знаходзячыся амаль у інфармацыйным вакууме, спрабавала прабіцца да выбаршчыкаў, каб данесці словы праўды аб падзеях, што адбываліся на сесіі. Цяжка было й нам, журналістам, адчуваць уласнае бяссілле, калі на рэдакцыйным стале ляжалі матэрыялы апазіцыі, а сувязь з чытачамі абарвалася...

Пэўна, лёсу было трэба праверыць моц прыхільнікаў газеты. Гэты вымушаны «прагул» наглядна прадэманстраваў, што ў яе досыць сяброў як тут, на Беларусі, так і за яе межамі.

Але гэта было ўчора, а цяпер чарговы нумар газеты паступіў да чытача. Мы ўпэўнены, што выданне будзе жыць. І аніякія дэмагагічныя выкрыкі ў парламенце, і ніякія судовыя іскі не прымусяць нас змяніць твар газеты.

Мы зрабілі свой выбар. У нас хопіць цярпення ды волі, каб рухацца наперад па выбранаму шляху.

Жыве Беларусь!

**Барыс ХАМАЙДА.**

*Сустракалі цёпла і гасцінна*

## СУПРАЦОЎНІЦТВУ МАЦНЕЦЬ

*З 9 да 16 лістапада група маладых віцебскіх палітыкаў, якая складалася з прадстаўнікоў гарадской рады БНФ, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады і Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, знаходзілася па запрашэнні арганізацыі па міжнародным кантактам (IBW) у нямецкім горадзе Нінбургу.*



Адбыліся сустрэчы і размовы з прадстаўнікамі мясцовых партыйных арганізацый ХДС, сацыял-дэмакратаў, вольных дэмакратаў, партыі «зялёных».

На працягу першых двух дзён гасцям з нашага горада быў прачытаны курс лекцый аб дзяржаўным ладзе Нямеччыны, пра камунальную ўласнасць. Былі зладжаны экскурсіі па местах Нінбург і Хойя, адбылася паездка у вядомы Брэмен. Дэлегацыя наведала могілкі ў ваколіцах Хойі, дзе пахаваны 746 савецкіх ваеннапалонных, і ўсклала кветкі, а гэтаксама прыняла ўдзел у дні памінання ахвяраў другой сусветнай вайны.

Група віцебскіх палітыкаў была прынятая ў памяшканні гарадской ратушы кіраўніцтвам г. Нінбурга.

Па выніках паездкі быў падпісаны з IBW сумесны пратакол аб супрацоўніцтве.

**Б. ХАМАЙДА.**

**(Іншыя матэрыялы аб прабыванні віцебскіх дэмакратаў у Германіі чытайце ў наступным нумары).**



**НА ЗДЫМКАХ з нінбургскай газеты «Die Harke»: на прыёме ў гарадской ратушы; група маладых палітыкаў з Віцебска; вучні віцебскай СШ № 34 у Нінбургу.**

*✦ Весткі з раёнаў*

### Падрыхтоўка да дзеянняў

Узнік страйкам ва Ушацкай сярэдняй школе. У Оршы ўтвораны гарадскі камітэт па каардынацыі забастовачнага руху педагогаў школаў і дашкольных установаў. У Дубровенскім раёне настаўнікі таксама ў перадзабастовачным стане. Асноўныя магчымыя патрабаванні пры стачках—эканамічныя.

### Эканоміка павінна быць эканомнай

Нягледзячы на даволі эфектыўную працу, значную эканомію паліва, адміністрацыя Лукомльскай ДРЭС звярнулася да жыхароў Новалукомля з заклікам зберагаць цяпло ў кватэрах. Прычына—«вялікія цяжкасці ў забяспячэнні палівам» электрастанцыі.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**



# ЗАЯВА

## АПАЗІЦЫІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСІ

29 кастрычніка 1992 года Вярхоўным Саветам Беларусі прынята беспрэцэдэнтная пастанова, паводле якой насуперак Закону «Аб народным галасаваньні (рэферэндуме)» праігнараваная ініцыятыва больш як 442 тысячаў грамадзянаў нашай дзяржавы аб правядзеньні рэферэндуму пра роспуск выбранага за часы непадзельнага кіраваньня КПБ—КПСС парламента і правядзеньні датэрміновых выбараў у новую найвышэйшую ўстанову дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусі.

Вярхоўны Савет гэтым сваім рашэньнем паказаў сваю адкрытую пагарду да рэалізацыі неад'емнага права народа на волевыяўленьне, парушыўшы тым самым артыкулы 2 і 5 дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі, артыкулы 6 і 14 Закона «Аб народным галасаваньні (рэферэндуме)» Рэспублікі Беларусі.

Цэнтральная камісія па рэферэндуму не адзначыла ніякіх парушэньняў Закона з боку Ініцыятыўнай групы рэферэндуму, якія давалі б падставу адхіліць правядзеньне рэферэндуму, аб чым сьведчыць Заключэньне Камісіі. Падпісныя лісты, у якіх Цэнтральная камісія па рэферэндуму выявіла недакладнасьці ў афармленьні, былі аднятыя ад агульнай колькасьці падпісных лістоў. Усе астатнія правераныя Камісіяй падпісныя лісты былі прызнаныя сапраўднымі і склалі 384318 подпісаў грамадзянаў, што значна перавышае колькасьць, неабходную для правядзеньня рэферэндуму. На аснове гэтага і было прынятае Заключэньне Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму і 12 мая 1992 г. перададзена ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі. Прэзідыум, ігнаруючы законную волю грамадзянаў, выяўленую ў падпісных лістах, на працягу паўгода не зьбіраў Сесію Вярхоўнага Савета і не займаўся пытаньнем пра рэферэндум, штучна адцягваў абавязковае рашэньне пытаньня.

29 кастрычніка 10-я Сесія Вярхоўнага Савета Беларусі з падачы Камісіі па заканадаўству сфальсіфікавала вывады Заключэньня Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму і прадставіла як грубыя парушэньні Закона. Але такія парушэньні Закона, калі б яны былі, мог устанавіць толькі суд. У дадзеным выпадку суду падлягае парламен, які прыняў антызаконную пастанову на падставе ім жа сфальсіфікаваных аргументаў. Аднак у нашай дзяржаве няма Канстытуцыйнага суда.

У сувязі з вышэйсказаным мы, дэпутаты Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце, заяўляем, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусі 12-га скліканьня, адхіліўшы законную ініцыятыву сотняў тысяч грамадзянаў Беларусі аб правядзеньні рэферэндуму пра нечарговыя выбары і роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета, стаў на шлях адкрытага парушэньня законаў, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі і тым самым фактычна згубіў сваю легітымнасьць. Дзеяньні Вярхоўнага Савета аб недапушчэньні рэферэндуму могуць быць расцэненыя толькі як утрыманьне ўлады незаконнымі сродкамі.

На жаль, кіруючая большасьць у Вярхоўным Савеце Беларусі, якая так нічога і не зрабіла для паляпшэньня жыцьця народа, засьведчыла на гэтай Сесіі выразныя тэндэнцыі, накіраваныя супраць існаваньня беларускай дзяржавы і беларускай нацыі. Гэта выявілася ў непрыняцьці новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі, у тармажэньні эканамічных пераўтварэньняў, у непавазе да дзяржаўнай беларускай мовы і сімвалаў беларускай дзяржавы, у імкненьні ўцягнуць нейтральную Беларусь у ваенны блок з Расеяй, у спробах захаваць адміністрацыйна-сацыялістычны лад і аднавіць КПБ—КПСС. Антыдзяржаўная палітыка ёсьць палітыка антынародная, бо, не маючы сваёй дзяржавы, народ не можа распараджацца вынікам сваёй працы.

У ажыцьцяўленьні рэакцыйных задумаў наменклатуры перашкаджае дзейнасьць аб'яднанай Апазіцыі Народнага Фронту і дэмакратычных партыяў. Мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусі, усьведамляем свае абавязкі перад народам у цяжкі для нашай Бацькаўшчыны час і, нягледзячы ні на што, застаючыся ў жорсткай парламенцкай Апазіцыі, будзем змагацца за аднаўленьне законнасьці, за інтарэсы нашых выбаршчыкаў, нашай Беларусі і яе грамадзянаў.

Мы застаемся паўнамоцнымі прадстаўнікамі нашых выбаршчыкаў, але не лічым для сябе абавязковым прымаць удзел у галасаваньні ў гэтым Вярхоўным Савеце.

Неабходнасьць рэферэндуму, законна засьведчаная воляй 442 тысячаў грамадзянаў Беларусі, не зьнятая з парадку дня. Дэпутаты Апазіцыі БНФ будуць дамагацца адмены антызаконнага рашэньня Вярхоўнага Савета ўсімі даступнымі канстытуцыйнымі сродкамі. Рэферэндум павінен адбыцца.

Мы, дэпутаты апазіцыйнай меншасьці, усе, хто 29-га кастрычніка прагаласаваў за рэферэндум, за выкананьне Канстытуцыі і Закона, застаемся легітымнай часткай гэтага Вярхоўнага Савета, каб не дазволіць яго кіруючай большасьці беспярэшкодна парушаць правы чалавека, зьневажаць духоўныя і матэрыяльныя інтарэсы народа, дыскрэдытаваць беларускую дзяржаву, каб дамагчыся датэрміновага спыненьня яго паўнамоцтваў на аснове Закона.

Мы верым у шчасьлівую будучыню Беларусі, вольнае і заможнае жыцьцё народа і, адстойваючы законныя інтарэсы і правы людзей, спадзяемся на іх разуменьне нашай пазіцыі, падтрымку і арганізаванасьць.

**Дэпутаты Апазіцыі БНФ:**

**З. ПАЗЬНЯК, В. ГОЛУБЕЎ, Г. СЯМДЗЯНАВА, С. НАВУМЧЫК, Л. ЗДАНЕВІЧ, Г. ГРУШАВЫ, С. АНТОНЧЫК, У. ЗАБЛОЦКІ, Ю. БЕЛЕНЬКІ, Л. ТАРАСЕНКА, С. ПАПКОЎ, Я. НОВІКАЎ, І. ГЕРМЯНЧУК, Л. БАРШЧЭЎСКІ, Л. ДЗЕЙКА, П. ХОЛАД, А. ШУТ, А. ТРУСАЎ, В. КАКОЎКА, М. АКСАМІТ, Я. ГЛУШКЕВІЧ, М. КРЫЖАНОЎСКІ, С. БАБАЧОНАК, М. МАРКЕВІЧ, А. ПАРУЛЬ, І. ПЫРХ, Я. БЯДУЛІН, В. МАЛАШКА, В. АЛАМПІЕЎ, М. МАЦЮШОНАК, С. СЛАБЧАНКА, Я. ЦУМАРАЎ.**

*У мясцовых філіях*

# АКТЫЎНАЯ ПРАЦА

Напрыканцы 1990 г. у Новалукомлі была створана партыйная арганізацыя АДПБ і хоць колькасць суполкі невялікая, яе сябры актыўна ўключыліся ў грамадска-палітычнае жыццё нашага мястэчка. Сходы сяброў нашай філіі праходзілі рэгулярна, на іх абмяркоўваліся важныя пытанні і часцей за ўсё за імі наставалі справы. Так, летась, у красавіку, па ініцыятыве і найактыўнейшым удзеле аб'яднаных дэмакратаў былі праверaны сігналы аб фактах злоўжывання службовым становішчам старшыні і нам. старшыні гарвыканкама, якія ў варунках дэфіцыта размяркоўвалі тавары сярод сваіх знаёмых, зразумела, не абмінаючы й сябе. Паводле матэрыялаў праверкі мы выпусцілі ўлёткі, такім чынам прымусіўшы скліканне выканкам і сесію гарсавета, якія вызвалілі парушальнікаў ад гэтых пасадаў.

Плённа працавалі нашы прадстаўнікі і ў складзе камісіі рабочага кантролю па праверцы прадпрыемстваў гархарчгандлю. Пры парушэнні правілаў гандлю інфармавалі грамадскасць, дзяржаўныя структуры. Але тут мы сустрэлі свядомае—на маю думку—супраціўленне некаторых асобаў.

Мясцовая філія партыі сабрала болей 600 подпісаў за правядзенне рэферэндуму, перадала спісы ініцыятыўнай групе ў Віцебск.

Самы актыўны ўдзел прынялі сябры АДПБ у стварэнні на Лукомльскай ДРЭС прафсаюзнае арганізацыі Канфедэрацыі працы Беларусі.

У ліпені нас запрасілі на радыё дый тэлевізію, дзе мы мелі мажлівасць выкласці свае погляды пра ролю і працу незалежных прафсаюзаў.

Да гадавіны жнівеньскага путчу суполка выпусціла ўлёткі, у якіх заклікала людзей да пільнасці, бо «бышэвікі» зноў пераходзяць у наступ.

**В. МЫКОЛЬНІКАЎ, старшыня прафкама КПБ Лукомльскай ДРЭС, сябра АДПБ.**

# ЗАЯВА

## ВЫКАНКАМА ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ БСДГ

Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ звяртае ўвагу грамадскасці на тое, што ў праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які падрыхтаваны рабочай групай Канстытуцыйнай камісіі і Вярхоўнага Савета, адсутнічаюць прынцыповыя палажэнні, замацаваныя ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі, а менавіта, палажэнні аб імкненні Беларусі набыць статус нейтральнай, без'ядзернай дзяржавы. Больш таго, на пасяджэнні Канстытуцыйнага савета Вярхоўнага Савета, на якім абмяркоўваўся праект Канстытуцыі, прапанова аб уключэнні гэтых палажэнняў у праект не знайшла падтрымкі прысутных дэпутатаў.

З гэтай нагоды Выканкам ЦР БСДГ заяўляе, што Грамада не падтрымае праект Канстытуцыі, які не адпавядае Дэкларацыі аб Дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі, і заклікае дэпутатаў-сяброў БСДГ, іншых дэмакратычных і патрыятычна арыентаваных парламентарыяў галасаваць супраць усіх магчымых праектаў Канстытуцыі, якія будуць тым ці іншым чынам супярэчыць Дэкларацыі.

**Выканкам БСДГ.**

**Каардынацыйная рада** Бешанковіцкай раённай арганізацыі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі звяртаецца да жыхароў, якія маюць факты злоўжыванняў адказнымі асобамі, крадзяжу, незаконнай прыватызацыі дзяржмаёмасці, з просьбай паведаміць аб гэтым на адрас: 211350, Бешанковічы, вул. Чарняхоўскага, д. 40, кв. 1; тэл. 2-16-89.

## МОВАЙ ЛІЧБАЎ

У 1866 г. Смаленская губерня (1150541 жыхар) была амаль напалову беларускай (537149 чалавек). У 1989 годзе ў Смаленскай вобласці жыло толькі 22384 беларусы. Межы сучаснай вобласці і былой губерні мала адрозніваюцца.

* * *

За 9 месяцаў гэтага года колькасць памерлых (342) у Шуміліскім раёне перавысіла лічбу народжаных (253). У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года нараджальнасць зменшылася на 6%, а колькасць нябожчыкаў узрасла на 5,2 працэнта.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**



*У Віцебскім ПТВ-37 машынабудавання імя М. Ф. Шмырова запрацаваў тэатральны ліцэй. У ягонай праграме—падрыхтоўка хлопцаў і дзяўчат да ўспрымання свету тэатральнага мастацтва, сустрэчы са стваральнікамі спектакляў, абмеркаванне работ калясацўаў. Гэта не адзіная форма нетрадыцыйнай працы, якую прапануюць выкладчыкі і выхавацелі вучылішча сваім навучэнцам. Каб заўсёды творча падыходзіць да вучэбна-выхаваўчага працэсу, трэба і самім вучыцца,—лічаць педагогі ПТВ. Для гэтага яны правялі метадычную канферэнцыю – сімпозіум па праблемах псіхалогіі, у якой удзельнічалі навукоўцы, прадстаўнікі клеру, журналісты.*

**Ю. СЦЯПАНАЎ.**

**На здымку:** *імгненні працы канферэнцыі-сімпозіума.*

*У мясцовых філіях*

## Шэрагі нацдэмаў растуць

Узнікла першасная суполка НДПБ у Новалукомлі. Разам з мясцовай арганізацыяй АДПБ яна ўтварыла каардынацыйную раду, якая будзе праводзіць у жыццё прынцыпы дэмакратыі.

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

## Навіны

Яшчэ адну серыю марак выпусціла міністэрства сувязі нашай краіны. На гэты раз на іх намаляваны герб «Пагоня». Маркі розняцца колерам і цаною.

* * *

Як мы ўжо паведамлялі, у Віцебску заснаваны першы часопіс «Дыялог. Карнавал. Хранатоп». Днямі з'явіўся яго першы нумар. Віншуем!

## ШЧЫРА ДЗЯКУЕМ!

Новалукомльская суполка НДПБ ахвяравала на патрэбы рэдакцыі 500 рублёў.

# Выбары і палітычныя гульні вакол іх

На Беларусі пакуль што шматпартыйная сістэма мае ўмоўны характар. Па сутнасці, існуюць дзве палітычныя групоўкі. Усе дэмакратычныя партыі і плыні супрацьстаяць былой наменклатуры, у якой улада. Вядома, што дасягнула яна гэтага, дзякуючы непадзельна пануючай на час мінулых выбараў КПБ.

На сёння ж да шырокага кола людзей з ідэямі камунізму ды «сацыялістычнага выбару» не выйдзеш. Хоць і не такая ўжо і малая частка насельніцтва настальгічна ўспамінае «заможнае» жыццё пры камуністах.

Людзі хочуць жыць лепш, але камунізм, пэўна, ніхто будаваць не будзе. Тыя, хто зараз ва ўладзе, гэта добра разумеюць. Яны баяцца, каб выбаршчыкі не зразумелі, што былыя заклікі і сённяшнія заявы аб рэгулюемым рынку робяцца аднымі і тымі ж асобамі, якія дамагаюцца аднаго—захаваць уладу. Ім усё роўна, які сацыяльны лад будзе. Толькі б застацца ў кіраўніцтве.

Улады можна дамагчыся альбо з дапамогай зброі, як гэта імкнуліся зрабіць летась, альбо на выбарах. На выбарах, вядома, на сённяшні час больш надзейна, бо ў ізаляцыі ад знешняга свету доўга не працягнеш і дыктатарам называцца ніхто не захоча. Вось і ламаюць галаву ўладу маючыя, як выйграць гэтыя выбары ізноў, якім чынам захаваць у рыначнай эканоміцы сваё вядучае становішча. Вядома, што хлусня і дэзінфармацыя як адзін са сродкаў, якім яны заўжды карысталіся і які вельмі дапамог на мінулых выбарах, будзе зноў выкарыстан, бо друк, радыё, тэлебачанне, за невялікім выключэннем, у руках цяперашніх уладароў. Але ж вялізная дэзінфармацыйная машына ўсё часцей дае збоі, асабліва ў гарадах, дзе існуюць палітычныя арганізацыі дэмакратычнага накірунку, незалежны друк. Улады добра разумеюць, што ў адкрытай перад выбаршчыкамі палеміцы з дэмакратамі шанцаў перамагчы мала. Напрыклад, на баку БНФ навуковы падыход да аналізу грамадска-палітычных падзей і—у выніку—іх прадбачанне, праграма сацыяльна-эканамічных рэформаў. Нарэшце, вопыт палітычнай дзейнасці на працягу чатырох гадоў пад моцным уціскам з боку ўладаў. Пагэтаму апошнім застаецца толькі неяк прыстасоўвацца.

Прыстасаванцы заўжды, калі ім небяспечна, лічаць за лепшае застацца ўбаку, выставіць для «біцця» замест сябе «яшчэ не зусім разумных, непаслухмяных хлопчыкаў», якіх дзеля гэтага і трымаюць у якасці трэцяй палітычнай сілы. А самім да часу быць нібы міратворцамі, якія ведаюць адказ на ўсе пытанні. Зараз у якасці такіх «хлопчыкаў» яны выштурхоўваюць на паверхню партыю камуністаў Беларусі (ПКБ). Рух за сацыяльны прагрэс і справядлівасць (ДСПС), «Славянскі сабор», «Белую Русь». Прадстаўнікі гэтых плыняў маюць розныя палітычныя погляды, розныя гістарычныя вытокі. Аднак іх аб'ядноўвае нежаданне рэформаў, неўспрыманне Беларусі як дзяржавы, а беларускага народа—як нацыі.

Гэта вельмі добра бачна на прыкладзе нашага Віцебска, дзе прадстаўнікі «трэцяй сілы» накшталт «Движения за возрождение СССР» наладжваюць канферэнцыі, якія нагадваюць тэатр абсурду. Яны імкнуцца, часта з дапамогай хлусні і дэзінфармацыі, выдаць сябе за прадстаўнікоў працоўных калектываў. Улады горада аддалі, па сутнасці, ім у распараджэнне газету «Віцьбічы», якая належыць гарадскому Савету і выканкаму. Са старонак яе льецца бруд на дэмакратычны рух.

Там размяшчаюцца артыкулы антыбеларускага накірунку прыхільнікаў гэтай «трэцяй сілы». Але дагэтуль ні адзін прадстаўнік гарадскога Савета і выканкама, ні адзін журналіст гэтай газеты, ні яе галоўны рэдактар не далі належнага адпору гэтым публікацыям, якія ў самастойнай краіне з'яўляюцца антыдзяржаўнымі.

На сёння з боку ўладаў, афіцыйных асобаў робяцца намаганні, каб сутыкнуць БНФ і іншыя дэмакратычныя арганізацыі з ПКБ, ДСПС, «Белай Руссю». Робяцца памкненні зацягнуць за «круглы стол» і таму падобнае для абмеркавання не галоўных у цяперашні момант праблемаў. І чыніцца ўсё гэта дзеля таго, каб у выбаршчыкаў пачалі разбягацца вочы, бо невядома, дзе хто і чаго варты.

Вось тут і ўзрастаюць шанцы «памяркоўных» кіраўнікоў, якія за камуністычныя часы не засвяціліся на самым версе партыйна-іерархічнай лесвіцы, альбо не паспелі туды залезці. І чым менш БНФ звяртае ўвагі на «трэцюю сілу», тым больш апошняя нервуецца, тым болей бачна бязглуздзіца ейных заклікаў і зваротаў да народа, тым менш яна ўплывае на грамадства.

Вядома, што Вярхоўны Савет і Урад робяць і іншыя захады, каб наменклатура захавала ўладу альбо як мага менш яе страціла. Яны робяць стаўку на прыняцце канстытуцыі і закона аб выбарах, якія б адлюстроўвалі іх інтарэсы. Настойліва праз сродкі інфармацыі ўбіваецца ў галовы, што вылучаць кандыдатаў неабходна па вытворчаму, а не тэрытарыяльнаму прынцыпу. І гэта ў той час, калі ва ўсім цывілізаваным свеце кандыдатаў вылучаюць палітычныя партыі або грамадзяне па месцы жыхарства, дзе кандыдат павінен набраць неабходную квоту подпісаў!

Каб неяк пазбавіцца ад павуціння былой сістэмы, прыпыніць той вэрхал прыватызацыі, які стварыла былая партыйная наменклатура (напэўна, не без нейкай дапамогі парламента), няма іншага выйсця, як замена Вярхоўнага Савета. Прытым абнавіць што трэба цераз датэрміновыя дэмакратычныя выбары.

**У. ПЛЕШЧАНКА.**

## ДЗЕНЬ ДЭПУТАТА

20 лістапада ў Віцебскім гарсавеце адбыўся дзень дэпутата. У зале для пленарных пасяджэнняў сабраліся дэпутаты гарадскога і раённых у Віцебску Саветаў. З паведамленнем «Аб стане барацьбы са злачыннасцю» выступіў старшыня Віцебскага гарвыканкама М. Федарчук. Вывад адназначны: злачыннасць у Віцебску, як і паўсюдна, расце. Павялічваецца колькасць злачынстваў у сферы эканомікі, актывізуецца арганізаваная злачыннасць. Як паведаміў М. Федарчук, у Віцебску будзе створана дадатковае фарміраванне АМАП. Занепакоены гарадскія ўлады і ростам падлеткавай і маладзёжнай злачыннасці. Вось некалькі лічбаў, прыведзеных М. Федарчуком. За 10 месяцаў бягучага года ў Віцебску здзейснена 3924 злачынствы, што на 225 злачынстваў больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года, або на 7,2%. За 10 месяцаў 1992 г. у Віцебску за парушэнні антыалкагольнага заканадаўства затрымана каля 15 тыс. чалавек. За бягучы год у віцебскім гандлі выяўлена каля 150 выпадкаў парушэння заканадаўства.

З дакладам па жыллёвай праблеме выступіў начальнік упраўлення па размеркаванню жылля гарвыканкама В. Сазон. Ён паведаміў, што з новага года дзяржаўнае будаўніцтва жылля будзе спынена, за выключэннем жыллёвага будаўніцтва для ваеннаслужачых, якое будзе фінансаваць Мінабароны Рэспублікі. Астатняе насельніцтва будзе забяспечвацца жыллём праз жыллёва-будаўнічыя кааператывы ці шляхам прыватнага будаўніцтва. Так што на дзяржаву ў гэтым пытанні спадзявацца не трэба.

З канцэпцыяй адраджэння гістарычных назваў вуліцаў і плошчаў Віцебска дэпутатаў пазнаёміў выкладчык пединстытута, кандыдат гістарычных навук В. Акуневіч. Большасць дэпутатаў сустрэла гэту канцэпцыю непрыхільна. Таму дарэмна звязваць надзеі на адраджэнне гістарычных назваў у Віцебску з цяперашнім дэпутацкім корпусам гарсавета.

**А. БУКАЧОЎ.**



*Вось так і жывем удваіх...* *Фота* **А. Когаля.**

## НЕ БУДЗЕМ АБЫЯКАВЫМІ

Напрыканцы лістапада па ініцыятыве кіраўніцтва тэатра імя Якуба Коласа прайшла прэс-канферэнцыя, на якой прысутнічалі журналісты мясцовых сродкаў масавай інфармацыі.

Мастацкі кіраўнік тэатра Барыс Эрын, дырэктар Геральд Асвяцінскі і загадчык літаратурнай часткі Святлана Дашкевіч распавялі пра праблемы калясацўцаў.

У прыватнасці Б. Эрын сказаў, што з-за недахопу фінансавых сродкаў няма магчымасці ставіць касцюміраваныя спектаклі. Тэатр ужо знаходзіцца ў надзвычай цяжкім становішчы. У тэатрах рэспублікі існуе праблема рэжысёраў. Не абмінула яна і калектыў БДТ-2. Але нягледзячы на пералічаныя складанасці, апошнім часам сыпяцца, як з рога дастатку, прэм'еры: пяць новых пачаў пастаўлена за квартал. І спасярод іх такія ўдалыя як «ЧП-1» і «ЧП-2» паводле М. Гогаля, «Залёты» па В. Дуніну-Марцінкевічу. Болей стала звяртаць трупа ўвагі і на спектаклі для дзяцей.

Г. Асвяцінскі ўсхвалявана гаварыў аб кадравых цяжкасцях. З-за адсутнасці кватэр не запрашаюцца на працу маладыя здольныя артысты. Тэатр жыве на дзяржаўныя датацыі. Аднак і гэтай дапамогі ледзве стае—на жаль, на культуру ўлада выдзяляе мізэр. Але й яго «з'ядае» інфляцыя. І каб спектаклі сталі акупаемымі, неабходна ўзняць цэны квіткоў да 150—200 рублёў. Пайсці такім «лёгкім» шляхам адміністрацыя не можа, бо тады для звычайных гараджан тэатр стане недаступным. Асвяцінскі запэўніў прысутных, што пакуль ён на пасадзе дырэктара, творчае аблічча тэатра будзе захоўвацца.

У канцы сустрэчы журналісты задалі пытанні кіраўнікам тэатра. Адваротным бокам былі выказаны пажаданні прадстаўнікам сродкаў інфармацыі пісаць творчыя партрэты акцёраў, рабіць інтэрв'ю з імі, падаваць на старонках выданняў спрэчныя пункты погляду на той ці іншы спектакль. Адным словам, ад газетчыкаў чакаюць прафесійных водгукаў.

Арганізатары прэс-канферэнцыі аб'явілі пра фонд сацыяльнай абароны акцёраў, што быў нядаўна створаны. Грошы на яго можна пералічваць на разліковы рублёвы рахунак 000700506 і валютны рахунак 000070702 (код МФО 150801006) у Галоўным упраўленні нацыянальнага банка па Віцебскай вобласці.

Рэдакцыя «Выбара» звяртаецца да гармадзян Рэспублікі Беларусь, да беларускае эміграцыі, да ўсіх, каму неабыякава тэатральнае мастацтва, з просьбай дапамагчы выжыць тэатру ў гэты нялёгкі час, час Адраджэння беларускае культуры. Гэты ўклад у будучыню нацыі, у будову незалежнае дзяржавы.

**Б. ХАМАЙДА.**

## Навіны

У Віцебску ўтворана гарадская філія Саюза палякаў на Беларусі.

* * *

У шведскім горадзе Мальме прайшла чарговая вялікая персанальная выстава беларускага мастака Беласточчыны Лявона Тарасэвіча.

* * *

Як мы ўжо паведамлялі, віцебская грамадскасць прыняла ўдзел у справаздачна-выбарнай нарадзе абласнога аддзялення Беларускага фонда культуры. Старшынёй новага праўлення філіі БФК выбраны віцебскі паэт, артыст Белдзяржакадэмтэатра імя Якуба Коласа Пятро Ламан.

Прыняты зварот да Вярхоўнага Савета, у якім асуджаюцца выступленні некаторых асобаў за наданне рускай мове статуса дзяржаўнай.

**М. МАРУДАЎ.**

# Вакол культурна-рэлігійнага жыцця

**12 лістапада 1623 года ў Віцебску адбылося забойства ўніяцкага архібіскупа Іясафата Кунцэвіча (на малюнку). Гістарычны аповяд, напісаны ў форме ліста, дапаможа чытачу лепш разабрацца ў некаторых абставінах гэтай падзеі.**



*Уладзімір ЯРАШЭВІЧ*

## Ліст Жыгімонту III

Жыгімонту III, божай міласцю каралю польскаму, вялікаму князю літоўскаму, рускаму, прускаму, жамойцкаму, мазавецкаму, інфлянтскаму, шведскаму, гоцкаму і вандальскаму і дзедзічнаму каралю.

Найвышэйшы гаспадару пане кароль! Атрымаўшы грамату Вашае вялікасці з загадам Галоўнаму трыбуналу Вялікага княства Літоўскага правесці дазнанне аб вялікім бунце гарадской управы мяшчан і простага люду горада Віцебска і забойстве Іясафата Кунцэвіча, архібіскупа Полацкага, я—найніжэйшы слуга і верны падданы Ваш, падканцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега, неадкладна паведаміў аб Вашае волі камісарам Галоўнага Літоўскага трыбунала Самуілу Сангушку—ваяводзе Віцебскаму, Хрыстафору Сакалінскаму—каштэляну Мсціслаўскаму, Аляксандру Корвіну-Гансеўскаму—пісару Вялікага княства Літоўскага, Аляксандру Сапегу—старасце Аршанскаму, прызначаным Вашае міласцю для рашэння гэтае справы. Сабраўшыся ў Віцебску 15 студзеня 1624 года і правёўшы фармальнае следства, мы паведамляем Вам наступнае.

Прыбыўшы ў 1618 годзе па прызначэнню і грамаце Вашае каралеўскае вялікасці ў Віцебск, айцец Іясафат Кунцэвіч быў прыняты як пастыр, і мяшчане Віцебска, углядаючыся ў яго святое і набожнае жыццё і назідальнае пастырскае яго вучэнне, заўважылі таксама, што ён не зрабіў аніякіх змяненняў у абрадах Божае царквы, і ва ўсім прытрымліваўся старажытнай грэчаскай веры і законаў. Дзякуючы гэтаму вельмі хутка ён набыў павагу сярод жыхароў Віцебска. І гэтак працягвалася тры гады, пакуль не абвясціўся самазваны святар Мялеці Сматрыцкі, які назваўся архібіскупам Полацкім.

Гэтая асоба вядома Вашае вялікасці, як аўтар «Граматыкі славенскія правільныя сінтагмы», альбо проста «Граматыкі». У ходзе следства высветлілася, што вышэйазначаны самазванец з'яўляецца небяспечным дзяржаўным злачынцам.

У 1610 годзе віленская святадухоўская манастырская друкарня, якой тады кіраваў Лявонцій Карповіч, выдала твор «Лямант святой адзінай апостальскай усходняй царквы з тлумачэннем дагматаў веры», падпісаны Феафілам Арфалогам. У ім робяцца напады на Брэсцкую вунію 1596 года і замах на адзінства Рэчы Паспалітай. Як памятае Вашая міласць, гэтая бессаромлівая мана была надрукавана як раз у той час, калі ў Маскве праходзілі перамовы аб выбранні на царскі трон Масковіі каралевіча Уладзіслава. Нягледзячы на тое, што амаль увесь наклад быў знішчаны, продаж кніг забараняўся пад пагрозай штрафа ў 1000 злотых літоўскіх, святадухаўская друкарня зачынялася, Лявонцій Карповіч, будучы старэйшым друкаром друкарні пасаджаны на два гады ў турму, як дзяржаўны злачынца, сапраўднаму аўтару—Мялецію Сматрыцкаму—на жаль, пашчасціла пазбегнуць пакарання, бо тады не ўдалося адкрыць яго псеўданіма.

У 1618 годзе пад уплывам вышэйазначанага Лявонція Карповіча, архімандрыта віленскага Святадухоўскага манастыра, Максім Сматрыцкі пастрыгаецца ў манахі гэтага манастыра і прымае імя Мялеція. А праз год Карповіч узводзіць яго ў сан святара манастырскай царквы. Пасля смерці Карповіча ў 1620 годзе Сматрыцкі быў абраны братчыкамі на яго месца.

У гэты ж год у Вялікае княства Літоўскае прыбыў нейкі Феафан Грэк, які называў сябе іерусалімскім патрыярхам, а на самое справе быў пасланы турэцкім султанам да маскоўскага народу, каб падбухторваць яго да парушэння міру і да вайны Масковіі супраць Рэчы Паспалітай, Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага, калі турэцкі султан нападзе на княства з другога боку. Ён вызваліў маскоўскі люд ад прысягі і міру, заключанага з Рэччу Паспалітай, а затым наўмысна прыехаў у нашу дзяржаву, не па шляху ў Іерусалім, а дзеля таго, каб у час гэтае вайны праводзіць у народзе бунты і змовы. Гэтым небяспечным чалавекам, які не меў у дзяржаве Вашае каралеўскае вялікасці аніякай улады, у 1621 годзе Мялеці Сматрыцкі быў рукапакладзены ў Полацкія архібіскупы, на шкоду ўладзе караля, бо толькі Ваша вялікасць можа зацвярджаць архібіскупаў, біскупаў, мітрапалітаў і ўладык у каралеўстве Польскім і Вялікім княстве Літоўскім.

Адразу пасля высвячэння Сматрыцкі паслаў у Віцебск нейкага Сільвестра ў чарнецкім адзенні, а разам з ім папа Івана Камянца, тутэйшага Вашага падданага, з лістом да мяшчан горада Віцебска, у якім Мялеці Сматрыцкі называў сябе архібіскупам Полацкім, уладыкам Віцебскім і Мсціслаўскім, і, быццам, з ведама і згоды караля быў узведзены ў гэты сан, а айца Іясафата Кунцэвіча называў адступнікам.

Гэты ліст 3 сакавіка 1621 года быў прачытаны перад гараджанамі каля ратушы.

Пасля прачытання гэтага ліста гараджане ўзбунтаваліся супраць айца ўладыкі Іясафата, а пазней аднялі цэрквы і прымусілі святароў перайсці на бок Сматрыцкага. Калі ж віцебскі ваявода Самуіл Сангушка паспрабаваў пакараць вінаватых, просты люд і некаторыя старшыны ўзнялі бунт і не дазволілі сябе судзіць, пры гэтым, зрываючы з галоў шапкі, кідалі іх у кучу ў знак непаслушэнства, і ледзь не забілі самога ваяводу і вялебнага айца. Нягледзячы на тое, што па загаду Вашае вялікасці цэрквы зноў былі вернуты айцу ўладыку, з таго часу бунтары ні ў чым яму не падпарадкоўваліся. А ў 1623 годзе пабудавалі дзеля сваіх сходбішчаў два будане, адзін—за Дзвіною, другі—на Задунаўі.

Між тым у Віцебск прыбыў айцец Іясафат, і хоць быў папярэджаны аб пагражаючай яму небяспецы, але сваёю набожнасцю і рахманасцю імкнуўся прывесці бунтаўшчыкоў да пакаяння, паўтараючы: «Яны самі не ведаюць, што робяць» і бесперапынна маліў Бога за іх. Спадзеючыся на прымірэнне, ён нікуды не выходзіў і не пускаў сваіх слуг, толькі часта чуў зняважлівыя словы, што даляталі да ягоных вокнаў з вуліцы.

Між тым 12 лістапада, калі пакойны правіў ютрань у саборнай царкве, тутэйшы віцебскі поп Уваскрасенскае царквы на Заручанскім пасадзе Іван, які перад тым доўгі час быў у падпарадкаванні айца ўладыкі, але потым далучыўся да бунтаўшчыкоў, шпацыраваў перад домам уладыкі, гаворачы на яго абразлівыя словы і таму быў затрыманы слугамі архібіскупа. Калі ж пра гэта было паведамлена ўладыку, ён адразу загадаў выпусціць папа, што і было зроблена.

Але нечысцівы люд пасля ютрані ўдарыў у набат у ратушны звон і ва усе царкоўныя званы. Не маючы аніякае справы да айца Іясафата, забыўшыся на Божае пакаранне і сорам людскі, гвалтаўнікі каля тысячы, збройныя, напалі на дом архібіскупа. Разламаўшы вароты і агароджу, яны ўварваліся ўва двор і, абклаўшы дом саломаю, запалілі.

Урэшце па ўварванні ў дом злыдні ўзнялі руку на самога айца і бесчалавечна забілі яго. Здзекваючыся над трупам, выцягнулі яго ўва двор за ногі і, сарваўшы з яго адзенне, працягвалі біць нагамі. Затым скінулі цела з Прачысцінскай гары, на якой стаяў дом архібіскупа і, паклаўшы труп у лодку, прывязалі да ног і шыі камяні, павезлі на Пескавацікі і там скінулі ў Дзвіну. Дом архібіскупа быў разрабаваны: золата, срэбра, медзь, царкоўная маёмасць, фундушавыя дакументы на розныя царкоўныя маёнткі—усё расцягнулі мяшчане. Пасля гэтага гвалтаўнікі выцягнулі са склепаў віно і пілі, пакуль не прысыціліся. Тады ж яны прыняліся за свірны з хлебам. Усяго было нанесена шкоды да трох тысячаў сямісот дзевяці злотых польскіх.

Пасля дазнання і следства, да судовае справы было прыцягнута больш ста чалавек, 91 з іх прыгавораны да пакарання смерцю, усе страты, панесеныя царквой, былі вернуты, званы з цэркваў зняты і пераплаўлены, гарадская ратуша разбурана, а горад, па волі Вашае каралеўскае вялікасці, пазбаўлены магдэбургскага права на векі вечныя. Мяліцію Сматрыцкаму, на жаль, ізноў удалося збегчы і зараз вядзецца яго пошук па ўсяму княству. Як толькі ён будзе адшуканы, я адразу ж паведамлю аб гэтым найяснейшаму пану Каралю.

Ніжэйшы слуга і верны падданы Вашае каралеўскае міласці—Леў Сапега—падканцлер Вялікага княства Літоўскага, ваявода віленскі, стараста слонімскі, брэсцкі і магілёўскі.

# ШТО ТАКОЕ САПРАЎДНАЕ

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 19,20).**

**III. Разгледзім яшчэ шэсьць тэкстаў:**

1. «...Прыйдзеце, багаслаўлёныя Айца Майго, насьледуйце царства, прыгатаванае вам ад стварэньня сьвету» (Мацьвей 25:34).

2. «І ніхто ня вырве іх з рукі Маёй. І Я даю ім жыцьцё вечнае, і не загінуць да веку» (Іаан 10:28).

3. «...Ідзіце ад Мяне, праклятыя, у вагонь вечны прыгатаваны чарту й анёлам ягоным... Там будзе плач і скрыгот зубоў» (Мацьвей 25:41; 24:51).

4. «Гадзіся з супраціўнікам тваім хутчэй... каб... ня ўкінулі б цябе ў цямніцу... Ты ня выйдзеш адтуль, пакуль не аддасі апошняга кадранта» (Мц. 5:25, 26).

5. «...У вагні выкрываецца, і агонь выпрабоўвае дзела кожнага... А чыё дзела згарыць, шкоду меці будзе, сам жа спасецца, ды так, як-бы праз агонь». (1 Кар. 3:13—15).

6. «...Калі хто скажа на Духа Сьвятога, не даруецца яму ні ў гэтым веку, ні ў будучым» (Мц. 12:32).

Зробім аналіз гэтых тэкстаў. У тэксце 1 і 2 гаворыцца пра рай, а ў трэцім—пра пекла. Чытаючы тэкст 6, можна зрабіць вывад, «што ёсьць грахі, якія даруюцца ў будучым веку» (А. Валконскі, стар. 383). Але ў пекле, «дзе пакуты вечны, прабачэньня няма. Значыць існуе «сярэдні стан» (тэксты 4 і 5), «дзе душы пасьля выплаты даўгоў» (стар. 383) «да апошняга кадранта» атрымаюць прабачэньне. Гэты «сярэдні стан» мае назву чысьцілішча. У рай адразу пападуць душы памершых без агіды граху. Такіх людзей адзінкі. Тыя, хто сьвядома парушаюць Божыя запаветы, не жадаюць памірыцца з Богам, будуць аддадзены на вечныя пакуты, у пекла. Гэтых будзе паболей першых. Астатнія (да якіх належыць большасьць людзей) душ няма ні ў раю, ні ў пекле. Яны ў якімсьці іншым мейсцы (або мейсцах). Меньшаму граху павінна адпавядаць меньшае пакараньне. Дзе яно адбываецца?.. У чысьцілішчы.

**Трэцьці праваслаўны дагмат прызнае існаваньне рая, пекла й чысьцілішча.**

IV. Як вядома, «пазбаўленьне надзвычайных дароў і хібаў натуральнай прыродзе й складае першародны грэх кожнага чалавека. Калі Багародзіца нарадзілася ў першародным граху, тады Збавіцель-Бог, сама Сьвятасьць!—харчаваўся ад грахоўнай прыроды!

Але гэтага, відавочна, быць не магло... таму што Госпад, у ймя маючага ўвасобіцца ад яе» (Багародзіцы) «Бога Сына, вызваліў яе ад спадчыны перша-

# ГЭТА НЕ ПАВІННА ПАЎТАРЫЦЦА

**На пачатку лістапада Беларусь традыцыйна адзначае Восеньскія Дзяды. Успамінае памёршых і загінуўшых. У тым ліку і ў жорсткай машыне камуністычных рэпрэсій... Рэдакцыя прапануе нататкі пра лёсы жыхароў Оршы й раёна, якія былі рэпрэсіраваны ў 30—50-ыя гады.**

## «Адгукніцеся тыя, хто помніць...»

...Калі ў 80-я гады пачала прыўзнімацца завеса сакрэтнасці над падзеямі 30-х, калі слова «рэпрэсаваны» усё часцей сустракалася ў друку і гучала па радыё, мне, помню, было вельмі дзіўна, што ўсенародная трагедыя, непамерная па маштабах гвалту і колькасці ахвяр, ніякім чынам не закранула нашу сям'ю. Але я тады яшчэ не ведала ўсяго...

9 мая 1990 г. мая маці, брат і я прынеслі кветкі да магілы бацькі, які пры жыцці лічыў гэтае свята самым велічным і ўрачыстым. На могілках усе нашыя сваякі пахаваныя побач, няма сярод іх толькі майго дзеда, матчынага бацькі. Мы нават ніколі не спрабавалі ўдакладніць, дзе ён пахаваны, бо ўжо ўсведамлялі, якімі пакручастымі сцежкамі-дарожкамі прыходзілася часам блукаць людзям нашай гаротнай краіны. А тут раптам пачулі: «Ён жа таксама быў рэпрэсаваны...»

І мы слухалі матчын аповяд, баючыся прапусціць хоць слова.

## «...страх заціскаў ёй рот»

Маці была тады зусім малая, год 8. І было ўсё гэта ў 1929-ым.

У вёсцы стварылі калгас. Прадстаўнік мясцовай улады, сакратар сельсавету Лыскоў раз-пораз склікаў сходы, але сяляне ўпарта галасавалі супраць калектывізацыі. Кіраўніцтва з гораду націскала і нават пагражала. Трэба было нешта рабіць—знайсці хто «падбухторвае» сялян, «сее контррэвалюцыю». Да таго ж годам раней нехта падпаліў гумно Лыскоўвых... Вось тады НКУСаўцы і схапілі тых, на каго паказаў Лыскоў, без усялякіх доказаў. Сярод іх апынуўся і мой дзед **Сцяпан Чахоўскі.** А праз паўгода згарэла і хата Лысковых. Толькі лёс тых, хто ўжо сядзеў «за падпал» у турме, ад гэтага не змяніўся...

Сям'я Чахоўскіх была вялікая, Сцяпан—першы з васьмі дзяцей. Жылі ў дзвюх хатах, дружна і досыць заможна, бо ўсе працавалі ад цёмнага да цёмнага, мелі трох коней і пяць кароў. Наёмнай працай не карысталіся, гэта і ўратавала ад раскулачвання. Гаспадар Арцём Сцяпанавіч, мой прадзед, быў вельмі свядомы па тым часе чалавек, ён з павагай ставіўся да асветы, усе ягоныя дзеці скончылі адну ці дзве ступені манастырскай школы. Мой дзед Сцяпан у час першай сусветнай вайны быў паручнікам, а ў грамадзянскай удзелу не прымаў па «ідэйных меркаваннях». Пасля вайны ён рабіў недзе ў горадзе, кажуць, добра граў на скрыпцы і гармоніку, часта прыязджаў у бацькоўскую хату... А сям'я Лысковых была невялікай: адзіны брат сакратара сельсавету быў п'яніца і абібок.

Суда Сцяпан не дачакаўся. Ён павесіўся, адседзеўшы ў турме год. Калі жонка прынесла чыстую бялізну, каб пераапрануць нябожчыка, з ёй нават не сталі размаўляць. Дзе і калі ён пахаваны, і нават ці пахаваны па-хрысціянску—невядома.

Больш за 60 год насіла мая маці гэтую таямніцу на сэрцы. Страх пасяліўся ў ім з самага дзяцінства, боязь заціскала ёй рот кожнага разу, калі яна расказвала нам пра сваё сіроцкае дзяцінства, пра ваеннае ліхалецце, пра нямецкі палон. Гэта таксама было страшна, але расказваць пра гэта яна не баялася. І толькі зараз...

Толькі цяпер, нібыта асмялеўшы, маці ўзгадала, як у 1934 г. вяртаючыся з горада ў сваю родную вёску Паддубцы, яны з сяброўкай натрапілі на вялізную свежую магілу ў прыдарожнай лясной паласе.

У вёсцы шэптам казалі, што там былі расстраляны і закапаны святары Куцеінскага манастыра. Яшчэ казалі, што крыж, які аднойчы з'явіўся на месцы пахавання, і безліч жывых кветак прынеслі ноччу матушкі з жаночага манастыра, які знаходзіўся побач разам з царквою і манастырскай школай. І школу, і манастыр, і царкву памалу знішчылі яшчэ да вайны...

## «Аршанскі мартыралог»

Размаўляць, а тым больш распытваць кагосьці пра гэтыя падзеі было небяспечна. Той самы страх ледзяніў сэрцы, забараняў нават думаць пра гэта. Нават у 1990 г., калі ўпершыню ў Оршы адзначалі Дзяды на Кабыляцкай гары—месцы масавых расстрэлаў ахвяр сталінскіх рэпрэсій,—тыя сівыя бабулькі, якія нарэшце змаглі без страху наведаць месца пахавання сваіх родных і блізкіх, не называлі ні іменаў, ні прозвішчаў загінуўшых сваякоў. Плакалі, дзякавалі тым, па чыёй ініцыятыве з'явіўся тут хоць і часовы, але помнік,—і баяліся...

Тады гэта моцна ўразіла: даўно няма НКУС, няма нават на беразе Дняпра будынку, у якім ён знаходзіўся, а здань таго страху па-ранейшаму валодае душамі людзей. Як жа даць магчымасць людзям выказаць тое, што столькі год пячэ сэрца? Мы зразумелі: трэба стварыць наш, Аршанскі мартыралог. У мясцовай маладзёжнай газеце «Лидер» з'явілася аб'ява пра тое, што незалежная група БНФ у Оршы збірае звесткі пра рэпрэсаваных, быў надрукаваны кантактны тэлефон...

Нельга сказаць, каб з той пары тэлефон стаў «гарачым». Але былі і званкі, і сустрэчы з тымі, па кім праехалася сваімі цяжкімі коламі сталінская знішчальная машына. І ў «Лидере» з'явілася рубрыка «Аршанскі Мартыралог».

## «Людзі, лёсы, імёны»

Вось яны.

**Яфім Барысавіч Каралькоў.** Нарадзіўся і жыў у вёсцы Поўна Горацкага раёна. Афіцэр, удзельнік расейска-германскай вайны. У 1914 г. трапіў у палон. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі вярнуўся ў сваю вёску. Раскулачаны ў 1933 г. Быў сасланы ў Сібір. Потым атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. У 1937 г. арыштаваны зноў, праз тыдзень расстраляны на Кабыляцкай гары. Кампенсацыі сям'я не атрымала. Пасмяротна рэабілітаваны.

**Іван Ермалаевіч Грыгор'еў** таксама нарадзіўся ў в. Поўна ў 1923 г. Раскулачванне пачалося там у 1931-м. Тры сям'і былі прызнаныя кулацкімі і выселены ў Пермскую вобласць, сярод іх сваяк Івана Ермалаевіча **Анікей Грыгор'еў,** які да 1927 г. быў старшынёй сельсавета, а потым наважыўся пераехаць на хутар. Паспеў папрацаваць толькі 4 гады і стаў «кулаком». А. Грыгор'еў і **Анісім Ларыёнаў** у час ссылкі працавалі цеслярамі, відаць, у той далёкі кутон савецкая ўлада не дацягнулася сваімі доўгімі рукамі, і ссыльным за сумленную працу добра плацілі. Яны узгадвалі пасля, што нідзе потым так добра не жылі, як у той ссылцы... Трэці «кулак», той самы Б. Я. Каралькоў, не даехаў да Пермскай вобласці, бо ў дарозе захварэў, і яму дазволілі вярнуцца дадому. А Ларыёнаў і Грыгор'еў адбылі свой тэрмін (кожны па 5 год) і вярнуліся ў сваю вёску, працавалі ў калгасе.

Паколькі тэмпы калектывізацыі не задавальнялі новых гаспадароў жыцця, у 1933 г. зноў пачалася барацьба з «аднаасобнікамі». У «першы эшалон» трапілі **Каралькоў Іосіф Раманавіч, Клепікаў Епіфан Захаравіч, Кулакоў Арцём**—яны былі расстраляныя. На 10 год быў высланы ў Ухту **Львоў Антон Міхайлавіч.** Улічваючы бездакорную працу, яму нават было дазволена ўдзельнічаць у другой сусветнай вайне, што з рэпрэсаванымі здаралася рэдка. Ён ваяваў, быў узнагароджаны і загінуў у канцы вайны... Сям'я атрымала «кампенсацыю» за загінуўшага «кармільца»—трафейную нямецкую карову.

Яшчэ больш «пашчасціла» яго брату, **Кузьме Міхайлавічу Львову.** Яму далі «ўсяго» пяць год, як і **Ермалаю Архіпавічу Грыгор'еву,** і двум братам **Фаміным, Косцю і Іосіфу.** Да 1937 г. усе яны вярнуліся дадому,«ад званка да званка» адбылі свае тэрміны. Вярнуліся, каб ізноў быць арыштаванымі і расстралянымі супрацоўнікамі НКУС. К. Львову і І. Фаміну далі «толькі» па 10 гадоў турмы. І больш іх ніхто ніколі не бачыў... Маёмасць рэпрэсаваных канфіскоўвалася «на карысць калгаса». Так пісалася ў паперках. Між тым гэта калгасныя «актывісты»—старшыня, брыгадзіры, кладаўшчыкі—забіралі сабе ўсё, што лічылі больш-менш каштоўным.

Аднаго разу такія актывісты—дэпутат сельскага савета Трафім Грыгор'еў (цёзка па прозвішчу І. Грыгор'ева), кладаўшчык Іван Захаравіч Нікіцін і старшыня сельсавета Грыгорый Нікітавіч Хлапкоў—хадзілі па хатах і збіралі подпісы аб памілаванні сваякоў і аднавяскоўцаў. Людзі, зразумела, падпісаліся, нават не прачытаўшы паперу, на якой былі... патрабаванні аб «ужесточении наказания» рэпрэсаваным.

Іван Ермалаевіч Грыгор'еў узгадвае, як ягонай маці пра ўсё гэта расказала перад смерцю жонка дэпутата сельсавета Трафіма Грыгор'ева. Ён сам чуў, як яна плакала і каялася, не наважыўшыся ўзяць такі цяжкі грэх з сабою на той свет, бо нічога няма страшней за ўсведамленне таго, што кошт твайго існавання і дабрабыту—жыццё іншага чалавека, суседа, сваяка, сябра...

Людзі, імёны, лёсы. Жывыя распавядалі пра тых, хто ўжо ніколі нічога не скажа. На апавяданні, пакладзеныя ў аснову публікацый «Аршанскага Мартыралога», прыходзілі водгукі. Удакладнялася, дапаўнялася, рабілася больш выразным наша ўяўленне пра тую эпоху.

## «Каб Сталін памёр...»

**Сямён Ігнатавіч Сласценка** нарадзіўся ў 1912 г. у в. Сядрычана Віцебскай губерніі. Скончыў настаўніцкія курсы і працаваў у в. Слабада настаўнікам пачатковых класаў. У 1934 г. паступіў у Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію.

Расказвае сам Сямён Ігнатавіч:

«У 1934 г. я вучыўся на 1-ым курсе агранамічнага факультэта Горацкай акадэміі. У студзені, пасля забойства С. М. Кірава, у фае галоўнага будынка акадэміі павесілі некралог, напісаны ў вершах. Яго аўтарам быў дацэнт матэматыкі Бясверхаў. У той самы дзень пасля заняткаў у нашым пакоі, дзе мы жылі ўсямёх, як заўсёды, панавалі бесклапотнасць і гарэзлівасць—маладосць брала сваё, нават у гэтую страшную гадзіну... Я ляжаў на ложку, рыхтаваўся да заліку, гартаючы канспект, і нават не прыслухоўваўся да размовы сяброў, бо гэта была звычайная балбатня. Але яна падзяліла наша жыццё на «да» і «пасля», а некаторым каштавала і самаго жыцця.

—Чаму гэта не ты напісаў некралог у вершах?—задзірліва спытаў Сцяпан Жыляеў нашага прызнанага «рыфмаплёта» Паўла Іванова. Павел пачухаў патыліцу і «важна» адказаў:

—О то б каб Сталін памёр, то я б напісаў!

Здавалася, ніхто з прысутных не згледзеў у гэтай размове ніякай крамолы—звычайная блазнота. Але гэта толькі здавалася. Наш супакаёвец Іван Фёдаравіч Максіменка «проявил бдительность» і данёс куды трэба. Яго адзінага не арыштавалі, і ён праходзіў па нашай справе ў якасці сведкі. На суд прыйшоў у новым касцюме і паліто... Але і яго асудзілі праз 2 месяцы. Таксама на 5 год, як мяне і Афанасія Плешкава. Для Паўла Іванова ягоны жарт скончыўся зусім трагічна: ягоная становішча ўскладнялася тым, што ў яго быў сябар у Ленінградзе, Юрый Шамшура, асістэнт на кафедры картаграфіі. Значыцца, абодва «мелі непасрэдные дачыненне» да змовы супраць Кірава. Разам з нашым выкладчыкам літаратуры Сяргеем Фаміным П. Іванову і Ю. Шамшуру прысудзілі вышэйшую меру пакарання, і яны былі расстраляныя. Па 10 год далі Жукоўскаму, выкладчыку фізікі, і Гаўрыку, выкладчыку літаратуры (апошні скончыў жыццё самагубствам). Па 8 год атрымалі Мікалай Стэльмах, студэнт IV курса, Сцяпан Жыляеў, студэнт I курса, Панамароў (?), студэнт I курса, Аляксандр Міхалапаў, студэнт IV курса. А Міхалапаў сябраваў з дзяўчынай, сваячкай лабаранта аднаго з тэхнікумаў Гадунова. На нашай справе яму прысудзілі 5 гадоў, а тая дзяўчына павесілася, не вытрымала...

Вёў нашу справу следчы Піліп Васілевіч Юркевіч. Аднойчы на допыце ён сказаў:

—Я ведаю, Сласценка, што ты не вінаваты, але сядзець усё адно будзеш.

А з Максіменкам мы сустрэліся потым у Магадане, пасля адбыцця тэрміну. Ён спытаў:

—Ты Сласценка?

Віхор пачуццяў падняўся ў маёй душы.

—Не, вы памыліліся,—адказаў я і прайшоў міма.

## Адзінае, непаўторнае чалавечае жыццё

У 1938 г. Тамары Гаўрылаўне Маслоўскай споўнілася 11 гадоў. З маці і бацькам яны жылі ў Оршы.

Улетку гэтага года, яна добра памятае, бо было цёпла, і дзеці спалі на верандзе—ноччу раптам загрукалі ў дзверы. Увайшлі трое ў форме НКУС... Памятае збянтэжанасць дзядзькі-вайскоўца, які завітаў да іх на колькі дзён і міжволі стаў сведкам трагедыі сваякоў. Памятае, які вэрхал нарабілі ў хаце НКУСаўцы. І памятае збялелы бацькаў твар. Яна бачыла яго апошні раз... Ён быў расстраляны тут, у Оршы, у кастрычніку ці лістападзе 38-га. Хадзілі чуткі, што пахаванне расстраляных тады знаходзіцца ў напрамку Горак, каля в. Стаўры.

(Заканчэнне на 8-й стар.).



Фота А. Когаля.

ГОРА.



# ГЭТА НЕ ПАВІННА ПАЎТАРЫЦЦА

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

У 1958 г. з Віцебскага аблвыканкама маці атрымала даведку аб рэабілітацыі бацькі і аб выплаце 2-х акладаў рэабілітаванага пасмяротна Гаўрылы Васілевіча Маслоўскага. 900 рублёў на старыя грошы. На іх купілі тады шафу і швейную машынку. Тамара Гаўрылаўна навучылася шыць, і дагэтуль тая машынка дапамагае ёй неяк папраўляць сваё нялёгкае матэрыяльнае становішча... Праз усё жыццё пранесла яна таўро «дачка ворага народа». Асабліва цяжка было, калі адварочваліся найлепшыя сяброы, даючы зразумець, што ейная прысутнасць побач— непатрэбная і небяспечная.

Але бяда не прыходзіць адна: у 1942 г. пятнаццацігадовая дзяўчынка трапіла ў нямецкі палон. Давялося працаваць у сельскай гаспадарцы недалёка ад Лейпцыга. А пасля вызвалення ў 1945 г. савецкі ваенны камендант, які займаўся справамі былых палонных, палічыў мэтазгодным далейшае «перавыхаванне» «дачкі ворага народа»: у выніку—10 год лагераў у Магадане.

Пасля адбыцця тэрміну вярнулася ў Оршу. Выйшла замуж, здаецца, усё наладзілася. Ды зноў няшчасце—згарэла хата. Тады далі пакой у камуналцы. І жыве яна тут ужо 20 год. Адна кухня і адна ванная на 5 сем'яў па 3—4 чалавекі.

Розныя людзі, ды аднолькавыя прыкметы камунальнага быту: гарэлка, сваркі, бойкі, жаночы лямант, дзіцячы плач... Колькі разоў звярталася ў гарвыканкам! Усё безвынікова: «жилой площадью вы обеспечены в занимаемой комнате гостиничного типа»... Няўжо такі няўмольны лёс «дачкі ворага народа»? Між тым яе сястра прымала ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне, была сувязісткай. Як жыве сёння дачка незаконна рэпрэсаванага, член сям'і ветэрана вайны?..

Увагі на такія «дробязі» ніхто не звяртае.

...Знявечанае яшчэ ў дзяцінстве адзінае, непаўторнае чалавечае жыццё!..

Горкая доля нашых землякоў. Загубленыя душы бязвінных, скалечаныя лёсы жывых... І няўжо нехта спытаецца сёння, навошта мы напісалі пра гэта?!

**Матэрыялы збірала Галіна СІНІЦЫНА.**
**Падрыхтавала да друку Алена СЦЯПАНАВА.**

г. Орша.

## Аб'явы

Высокакваліфікаваны 33-хгадовы друкар (стаж работы 11 гадоў) шукае працу за межамі Беларусі. Тэл. у Віцебску **1-20-07.**

***

Вы жадаеце штосьці прадаць, абмяняць, купіць, кагосьці павіншаваць—адным словам—зрабіць бясплатную аб'яву? Звяртайцеся да нас лістоўна ці па тэлефоне **37-28-44.**

***

Калі Вам патрэбны рэпетытар па рускай ды беларускай мовах, звяртайцеся па віцебскім тэлефоне **33-49-21** (Надзея).

***

Рэдакцыя газеты глыбока ўдзячна **Віцебскай радзе БНФ «Адраджэньне»** за 500 рублёў дапамогі для распаўсюджвання «Выбара» за межамі Беларусі.



НЕЗНАЕМКА. Фотаэцюд А. МЕМУСА.

### Але сам не п'е

Жыхар Лепельшчыны А. Залатуха збірае бутэлькі з вадкасцю, якая прыцягвае многіх. У яго калекцыі каля трохсот бутэлек разнастайных гатункаў гарэлкі, вінаў, каньякоў. Пачатак такога незвычайнага хобі быў «падказаны» сумна вядомым указам аб барацьбе з п'янствам ды алкагалізмам.



# КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі:**

3. Беларуская дэмакратычная газета.
5. Азіяцкі эканамічны «тыгр».
9. Краіна ў Зах. Афрыцы.
10. Дзяржава на ўсходзе Афрыкі.
11. Дзяржава, якая абавязваецца абараняць інтарэсы іншай краіны ад трэцяга боку.
12. Незаконны захоп улады.
14. Міжнародная дамова ці пагадненне.
15. Устройства для вылоўлівання і абясшкоджання, знішчэння марскіх мінаў.
17. Хрысціянскія дэмакраты.
18. Палітычны націск.
19. Былая брытанская калонія.
20. Краіна са сталіцай Лусакай.
21. Сталічны горад Камеруна.

**Па вертыкалі:**

1. Тэакратычная манархія ў Еўропе.
2. Лідэр БНФ.
4. Палітычны балбатун.
6. Захопнік.
7. Дзяржава, што мае калоніі.
8. Галандыя.
13. Форма дзяржаўнага ладу.
16. Усенароднае выяўленне грамадскай думкі па важных пытаннях.

**Склаў М. МАРУДАЎ.**

## Да ўвагі класных кіраўнікоў

Віцебскае абласное аб'яднанне па арганізацыі пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі праводзіць з мэтай асветніцтва, вяртання гістарычнай памяці, фарміравання нацыянальнай беларускай самасвядомасці

**БЯСПЛАТНЫЯ ЭКСКУРСІІ**

для школьнікаў 5—11 класаў па гістарычных мясцінах старога Віцебска. Матэрыял падаецца на беларускй мове з пазіцыяў нацыянальнага адраджэння. Экскурсіі праводзяцца ў зручны для дзяцей час. Іхняя працяглaсць—1—1,5 гадз. **Па пытаннях арганізацыі і правядзення экскурсіяў звяртайцеся ў аб'яднанне** (пр. Фрунзе, 94) да Куржалава Алега Васілевіча (сл. тэл. 4-30-09).

**Аддзел экскурсіяў.**

# Вясёлы глобус

—*Послушайте, кассир, в кассе отсутствует тысяча долларов, а ключи от сейфа только у вас и у меня.*

—*Ладно, господин директор, давайте внесем по пятьсот долларов каждый и забудем об этом.*

***

—*Сынок, почему у тебя красная щека?*

—*Я разошелся во мнениях с твоей женой.*

***

—Вы што, нездаровыя пасля адпачынку?—спыталіся ў Кебіча на чарговым брыфінгу.

—Хто вам об этом сказал?

—Вы самі. Часта надта гаворыце «Я болею».

—Да, болею, но за народ!

—І ці доўга гэта хвароба будзе працягвацца?

Наступны нумар газеты выйдзе 16 снежня 1992 г.



ЗАСНАВАЛЬНІК:
*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

Мастак **Р. Клікушын.**
Фатаграфіі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17, тэл. 37-35-06, 37-28-44.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку («Віцкамбанк») Код (МФО) банка 150801701.

Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні ім. Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.

Паліграфісты: **В. Карунас, Л. Волкава, Л. Драздова, А. Каспаровіч, М. Аджанс, Б. Платоўскі.**

Нумар падпісаны да друку 1.12.1992 г. у 17.15
Наклад 2500 экз.

**Цана 2 рублі.**